Панас ПРУСАК

# ВЕЧАРЫНА

## Міколавы апавяданні

Мучэку лукавую
я на себе навкоўваю
Міколе — шчыра
Генадзь Бураўкін



**Прусак, П.**
Вечарына. Міколавы апавяданні. / Панас Прусак. - Брылі:
Справа, 2012. - 40 с.

Зноў жыхар вёскі Брылі Магілёўскага раёна Мікола Яцкоў прыйшоў да свайго аднавяскоўца Панаса Прусака, каб расказаць аб сваёй чарговай вандроўцы - на гэты раз у Мінск, дзе адбылася вечарына, прысвечаная 65-годдзю з дня нараджэння Г.М.Бураўкіна. Усё расказанае П.Прусак занатаваў у прысутнай яму манеры народнага вершаскладання, дзе вусная гаворка працята інтанацыямі фальклору, а часам і неўласцівымі беларускай мове зваротамі да ненарматыўнай лексікі.

## У с т у п .

**Вечарэе.  І  кастрычнік
Расчыніў свой парасон.
Спаць сабраўся я па звычцы,
Але ўжо які тут сон –
Вунь бяжыць Мікола[1] шпарка,
Во  –  ўжо ў сенцах грукатня:
“Эй, Панас!  –  крычыць. –
Дзе шкварка?
Пляшка дзе?  Што за  х..рня!
Я ж па Мінску ўчора крочыў –
Вечарына там была!..”**

**Аж заплюшчыў нават вочы,
І гаворка паплыла…**

## П р а д м о в а .

**“Начавалі ў бабы Жэні[2] –
Неадкладна трэба ў Мінск:
Аж са жніўня[3]  шчэ кружэнне
І святкуюць нараджэнне
Там Бураўкіна[4].  І піск
Найапошні сёння будзе –
Сабантуй на Фрунзэ, 5[5]:
Панаб’юцца ў залю людзі,
Крэслы цяжка зарыцяць,
Паляцяць пісэнькі, вершы,
Выканаўцаў  –  аж пад гмах:
Лучанок[6]  прымчыцца першым,
Саша з Ядзяй[7]  свой размах**

**Усім пакажуць пад “фанеру”;**
**Ну і я з той талакой:**
**Нас там будзе да халеры**
**Пад бураўкінскай рукой.**

## Д а р о г а .

**Замярзаем, але едзем –**
**Натуральная зіма;**
**Адмарозім усё на свеце**
**Ды й галоўнае – дарма:**
**Зберажэ сваю капейку**
**Наш пісьменніцкі Саюз, –**
**Эх, на тую б шайку-лейку**
**Ды грунтоўны launch!..**

**Але там – Навум[8]... Не трэба**
**У яго кавалак хлеба**
**Найапошні забіраць.**
**І, дарэчы, дзе ім браць**
**Тыя грошы, бо Рыгорыч[9]**
**Дом іх родненькі загроб, –**
**Там фінансавае гора**
**Для пісьменніцкіх вантроб[10]…**

**…А ў Бялынічах скарэлых**
**На аўтобус мінскі смела**
**Наляцеў электарат:**
***– Я тут сяду!***
***– Ах ты, гад!***
***– Я ж пярвей цябе стаяла!***
***– Ну і што? Я – інвалід!***

***Зачыні свае хлябала!***
***– Ох ты, ах ты, ух ты, жыд!..***

**І залез на “раскладуху”,**
**Адштурхнуўшы тую скруху,**
**Нацягнуўшы брыль на вуха**
**Баявіты ветэран –**
**Вунь рассеўся, нібы пан.**

**…Злева сонца паднялося,**
**Лёд са шкла далоў паплыў,**
**Нудна радыё галосіць –**
**Б’е па вуху той матыў.**

**М і н с к .**

**Пашырэла вось дарога,**
**Побач – шолахі былля;**
**Вунь і Мінск пад чорным смогам**
**Паказаўся ўжо здаля.**

**Пад’язджаем. Глянь ты: дзесяць**
**На гадзінніку гадзін;**
**Як заўжды, вадзілаў месіц**
**КПП нумар “адзін”;**
**І аўто ўсялякіх прорва,**
**І народ туды - сюды.**

**Вунь крычаць, парваўшы горла,**
**У салоне дзве п...зды:**
**Менчукоўны, ясна бачна –**
**Разысціся не змаглі,**

**Пачалі сябе сабачыць, –**
**Каб вы так ужо жылі!..**

**Ля метро прыпынак першы:**
**“Магілёўская” – салют!**
**Трэба часам скласці вершы**
**Пра вось гэты мінскі кут.**

**Да “Цэнтральнага”[11] папёрлі,**
**І – канец усіх дарог.**
**Выпаўзаем. Стогны ў горле –**
**Ох, не чуем, людцы, ног!**

**На крывых, непаслухмяных**
**Я паклыпаў у сарцір;**
**70 рублікаў! Загана!**
**Не туды арыенцір!**
**Каб я ведаў, то ля плоту**
**Мог бы выдуліць дарма.**
**Ой, няма ўжо тут палёту,**
**Што было – таго няма!..**

**Ж ы б у р т о в і ч .**

**Мы да Віці[12] падаліся –**
**Трэба ж офіс паглядзець:**
**Абжывае оберст высі –**
**Давялося ж узляцець!**

**Калідор. За загародкай**
**Дзверы ўправа. Кабінет.**
**Ну, скажу, – тут не гаротна,**

**Ёсць палкоўніцкі імпэт!**

**Гаспадар зусім не ў духе –**
**Соплі, кашаль.  Павітаў,**
**Пахадзіў, пашкроб за вухам**
**І нарэшце нам сказаў:**
***–  Пасядзелі  –  ну і ладна!***
***До!  А зараз  –  шагам, гець!***
***Шмат работы  –  буду гадам!***
***Трэба мне вось тут гарэць.***
***Вы ж увечары заходзьце  –***
***Пагамонім, пасядзім.***
***Вас прыемна стрэць, наўродзе,***
***Як там будзе  –  паглядзім…***

**Т р а м в а й  №  1 .**

**Хутка - хутка мы адтуля**
**Паляцелі на трамвай.**
**Тры прыпынкі.  Звонім.  Счулі:**
***–  А, Мікола!  Ну, давай***
***Прыязджай, зайдзі да Зосі*[13] –**
***Скажа йна  –  куды і што.***

**То Бураўкін мне галосіць –**
**Аж дыміцца паліто.**

**Едзем, едзем… Тут цыганка**
**З цыганёнкам ды ў салон –**
**Пачалася  –  ух! –  гулянка**
**Без усякіх забарон:**
**Пад гармонік, з бубнам, звонка**

***“Иногда”* – лепш за Алсу[14]…**

**Эх, радзімая старонка:**
**Ўсе нясуць табе красу**
**Песень розных, незабыўных!..**

**Нават сцішыўся трамвай;**
**Грошай даць за спеў – не дзіўна;**
**Мех нясуць… ну што – давай!**

**“Крэпасць Брэсцкую”[15] з павагай**
**Пацанёнку аддалі, –**
**Трэба ўсё-ткі тут увага:**
**Месца йны сабе знайшлі.**

**А ў д з е е в а .**

**Часу ў нас – хоць заваліся.**
**Да Аўдзеевай[16] зайсці?**
**Вунь жа побач тыя высі, –**
**Нам тут міма не прайсці.**

**Звонім. Трубку падымае.**
***– Ой, Пятроўна, а мы тут!***
***– Чую, чую – не глухая.***
***Ну, давайце свой маршрут***
***Да мяне сюды круціце –***
***Дзецца ж некуды ад вас!***
***Пашпарты́ свае бярыце –***
***Як заўсёды, строга ў нас!***

**“Дом Ураду” тая хата;**

**Ленін.  Правае крыло:**
**Тут вядомая Палата,**
**І сюды вось занясло,**
**Ох, Аўдзееву высока –**
**Ды на трэці аж паверх.**

**Пашпарт. Позірк. Бокам, бокам:**
**– *Мы – свае, ты ўжо павер!..***

**За Янчэўскім і Красуцкім**[17]
**Ён  –  Наталлін кабінет.**
**Аж паджылкі ўсе трасуцца:**
**Ух  –  дзяржаўны тут імпэт!**

**З-за стала ляціць Пятроўна,**
**Я яе у ручку  –  чмок!**
**(Мог бы ў шчочку паслядоўна –**
**Ды вось Ала**[18] **лясне ў бок).**

***– Як вы ў гэных дэпутатах?***
***– Ды нічога.  Што у вас?***
***– Ай, сціхае тая хата –***
***Во й старэйшая ад нас***
***Хутка пойдзе з вёскі роднай –***
***Будзе ў нас пытанняў воз:***
***Трэба нам ці ў Міжнародны,***
***Ці “Ін’яз”, ці той “Нархоз”.***

***– Во надумалі  –  “Нархозы”***
***Ды “Ін’язы” падавай!***
***Хто ж тады цягнуць з навозу***
***Будзе наш гаротны край?!***

***Хто ў свінушніку, на ферме***
***Будзе ранак набліжаць?***
***Хай тут іншыя рвуць нервы,***
***Тут, скажу, – не благадаць!***

**Ой, і праўда! Ну, навошта**
**Ды сталіцы тыя нам?**
**У Брылях ёсць клуб і пошта,**
**І ў сталоўцы льюць сто грам;**
**А якое ж тут паветра!**
**Лёгка дыхаць пакрысе –**
**Асабліва, калі ветрам**
**Пах свінячы нанясе.**

**Ну да ладна, ужо не будзем**
**Да кандыцыі паўзці…**

***– Ой, Пятроўна, нам ісці***
***Трэба, бо чакаюць людзі, –***
***Літаратары шумяць:***
***“Дзе ўжо тая вечарына?***
***Дзе Яцкоў, такую маць?!”***
***А там хлопцы могуць дрынам***
***Ды бакі мае намяць…***

***– Ладна, ладна – адпускаю,***
***Магілёўцы вы мае!***
***Калі што – вас пагукаю!***
***Вось тады ўжо да мяне***
***І прыходзьце, калі ласка, –***
***Без дазволу – ні нагой!***
***А то мне тут ператраску***

***Бацька зробіць – ён такой!..***

**А і праўда: тут, дарэчы,**
**Пературахнутыя ўсе,**
**Пазгібалі нізка плечы,**
**Лямку цягнуць пакрысе…**

**М е т р о .**

**Ну, няхай. А мы імгненна**
**Закаціліся ў метро.**
**Там, скажу вам, – абалдзенна:**
**Шых! – туды - сюды народ,**
**У-у-у! – ляціць цягнік з тунэлю,**
**А-а-а! – піхаюцца ў вагон, –**
**Усе тут крышку адурэлі,**
**Сапраўды жа – Вавілон...**

**Ох, – да “Плошчы Перамогі”**
**Нам бакі адбілі, й ногі**
**Аддавілі ўсё ў канец, –**
**Набліжаўся ўжо п...здзец,**
**Але неяк падфарціла –**
**Й быццам нейкая нас сіла**
**Падхапіла і панесла**
**З падзямелля – да святла.**

**– *Каб я шчэ туды палезла!* –**
**Ала збоку завяла.**

**Ф р у н з э ,  5 .**

**Па завулках беглі хутка,**
**Вось і Фрунзэ з Домам тым.**
**Паддаліся дзверы гнутка;**
**Што нам моцным, маладым**
**На другі паверх забегчы?**
**Зараз будзе весялосць!**

**Тут мне Ала – тоўк! – у плечы:**
***– Ці не Зося  гэта вось?***

**Сапраўды: бяжыць кабета,**
**Аглядаецца на нас:**
***– Вы Яцкоў? Адтуль – са свету?***
***Ой, мы рады бачыць вас!***
***Зараз глянем мы раялю –***
***Там, на сцэне ён стаіць:***
***Паспрабуеце педалі,***
***Што там трэба падкруціць.***
***Не “Стэйнвей” у нас, вядома,***
***Але ж можна ўсё-такі граць –***
***Інструмент з  т а г о  шчэ Дома,***
***Не паспелі шчэ прасР...ць!***

**Аляксеіч[19] (той, што Чэслаў**
**І начальнік над усім)**
**Нас пачуў, саскочыў з крэсла**
**І  –  сюды.   Крычыць:   *– Я ім***
**(Мае, пэўна, ён на ўвазе**
**Літаратарскую раць)**
***Тут адскроб усё ад гразі,***

*Ды і потым прыбіраць*
*Пасля п'янкі давядзецца!*
*Ой, куды ж ад іх мне дзецца?*
*З літаратарамі – страх!*
*Падавай ім шык, размах:*
*Мікрафоны – каб без дроту,*
*Узмацненне – каб "Маршал"!*
*Мы ж не вылезлі з гароты,*
*Тут у справах, ой, завал!..*
*Крыху вось пабагацеем –*
*Ды й накупім усяго,*
*Ды, цягаўшы, упацеем,*
*Будзе база – ого-го!*
*Што? Паставіць фанаграму?*
*Ёсць у нас магнітафон.*
*Праўда, ён, як тая драма*
*Ці душы збалелай стогн, –*
*Але ўсё-ткі паспрабуем!*

**З Аляксеічам шыбуем**
**У кінабудку. Хлопцы там,**
**Пэўна, урэзалі сто грам**
**І вядуць абмеркаванне**
**Ўсіх пісьменніцкіх праблем.**

**Чэслаў кажа:** – ***Кыш, гарэм!***
*Трэба вырашыць пытанне:*
*Дзе тут наша агрэгата –*
*Каб "фанеру" запусціць?*
*Ой, гляджу я – ты паддаты!*
*Хутка ўсіх пачну вас біць!..*

*– Аляксеіч, не хвалюйся:*
*Вось машына! Зараз я*
*Да ўсіх піпак дабяруся –*
*Тут жа іх, ой, дах...я!*
*Значыць так: сюды ўпярдолім,*
*Гук вось гэтым запаволім,*
*Падтрымаем тут кантакт, –*
*Гэта ж вам не проста так!*
*Усе зраблю, як трэба, тут –*
*Будзе сёння ў нас “зэр гут”!*

## С у с т р э ч ы .

**Ладна – ёсць дамова! Злезлі.**
**Па фае цячэ народ.**
**Ала вунь сядзіць у крэсле,**
**Паліруе шчоткай бот.**

**Тут здаля ў чырвоным Юля**[20]
**(Ды бураўкінская) мне:**
***– А пасля – да нас, на гулі!***
***Прэе бульба ў чыгуне;***
***Без усякага заходзьце –***
***Будзем рады вас вітаць!***

**Во ў якім мы, глянь, палёце,**
**Во прыйшлося што абраць!..**

**Тут Шабовіч**[21] **падлятае,**
**Вельмі шчыра нас вітае,**
**Кажа мне, што – класік я;**
**Што ізўноўку ніх...я**

**Не зрабіў я йму касету –**
**На мяне ён злы за гэта;**
**Што у секцыі паэтаў**
**Ён – намеснік старшыні,**
**І, як я, такія пні**
**Аб Саюзе хай не мараць!**

**Так... Згусціліся ўжо хмары!**

**Падышоў Янусь Малец[22] –**
**Найцішэйшы наш хлапец;**
**Хто не ведае – не скажа,**
**Што кароль сатыры ён:**
**Здольны склеіць з нейкай лажы**
**Рэч каштоўнасцю ў мільён.**

**Тут Бураўкін чэша міма:**
***– О, Мікола! Як настрой?***
***Ну, дык што – сягоння грымнем***
***У гэтай зале мы з табой?***
***Ладна, усё – рыхтуйся, хлопча,***
***Мне ж пабегаць трэба тут!***

**А народ партэр той топча,**
**Не хапае месц, і груд**
**Прыстаўных стулоў з'явіўся –**
**Па праходах не прайсці.**
**Я ля сценкі прытуліўся:**
**Нехта Роўду[23] запусціў –**
**Ён і ўлез пад бок да Алы.**

## **В е ч а р ы н а .**

**Тут пачуліся сігналы,**
**Барадулін[24] і Бураўкін**
**Лёгкім ветрам паляцелі,**
**Падзялілі столік, лаўку,**
**Папіхаліся і селі –**
**Й пачалася вечарына.**

**Барадулін – тамада.**
**Усе каноны ён адрынуў –**
**І ўзлятала барада**
**Геніяльнага паэта,**
**Напраўляючы працэс.**

**Вось наперад прэ кабета,**
**Нібы танк праз цёмны лес, –**
**Гэта Маша Захарэвіч[25]**
**Пачала чытаць, ды так,**
**Што аж войкнуў пан Бутэвіч[26],**
**Хоць ён войкаць не мастак.**

**Ну, вядома, ажыўленне;**
**Тут Марыю панясло –**
**Нават нейкае натхненне**
**Гэту постаць праняло.**

**Потым знізу, прама з залі,**
**Дзядзькі дружна выпаўзалі –**
**Словы добрыя казалі,**
**Юбіляра віншавалі,**
**Кветкі клалі, клалі, клалі –**

**Завалілі ўвесь раяль.**

**Саша з Ядзяй працавалі**
**Ў абстаноўцы "экстрэмаль":**
**Мікрафоны падключылі**
**Да таго, што тут было, –**
**Усіх у момант аглушылі,**
**Усё страшэнна загуло;**

**А калі дачка́[27] іх бегла**
**Песню весела спяваць –**
**Нібы высыпалі цэглу;**
**Як шчэ сцэну паламаць**
**Не змагла акселератка:**
**Там былі́ бахілы – во!**
**Будзе гэта ўсім загадкай,**
**Не спазнаем мы таго…**

**Галя Дзягілева[28] вершаў**
**Развінула дзіўны свет, –**
**Задрамаў Рыгорка першым,**
**А за ім Бураўкін услед.**

**Захарэвіч зноў з надрывам**
**Забубукала сваё, –**
**Прагучала трошкі крыва**
**Й нуднавата, ё-маё.**

**Тут прачнуўся Барадулін:**
***– З Магілёўшчыны, адтуля***
***Прыгрымеў да нас Яцкоў –***
***Без капрызу і адмоў.***

***Гэта, так скажу, здзіўляе –***
***Магілёўцы ж – ого-го:***
***Бацька ім не дазваляе***
***Меркавання мець свайго.***
***А Яцкоў, наш мужны сябра,***
***Чхаць хацеў на той дазвол:***
***Узяў Бураўкіна за жабры –***
***І скубе, скубе... Арол!***
***Зараз нешта нам пакажа –***
***Спадзяюся, песні ўсё ж.***
***Ой, умажа дык умажа –***
***Ён такі, ядрона вош!***

**І сваім уступам залю**
**Наш Рыгор, як след, натхніў.**

**Я пачапаў да раяля,**
**“Шпору” выцягнуў, адкрыў**
**( Песен – мноства, а з ніводнай**
**Я не памятаю слоў, –**
**І чаму такі гаротны?..)**

**Мама родная:  галоў**
**Тут, напэўна, каля тышчы,**
**І глядзяць усе сюды:**
**Што вось гэты нам насвішча?**
**Затаіліся рады...**

**Я ж нахабна*:*** ***– Рыхтавалі***
***Тут раяль для Лучанка –***
***Ну, і дзе жа тая краля?***
***Штось не бачна Ігарка!***

**Барадулін*:* – *От праблема!***
***Незаменных у нас няма!***
***Ты, Мікола, час дарэмна***
***Не марнуй! Ня бздзі дарма!***

**Я й пачаў.  Раяль вось тута,**
**На раялі  –  мікрафон**
**(Мікрафон  –  адна пакута:**
**Мовіш, нібы праз гандон).**

**Цішыня.  Дзе фанаграма?**
**Там  –  ці зноўку рэжуць грамы,**
**Ці кантакт прапаў ізноў, –**
**Во й сядзі, як пень, Яцкоў!**

**Усё ж пабег *“Незацугляны”*[29]–**
**Гук трасецца дзесьці там;**
**Уступаю.  Ой, пагана –**
**Быццам сам заліў сто грам!**

**Усе, аднак, добразычліва**
**Паглядаюць на мяне;**
**І ўздымаюцца прылівам**
**Непаўторныя матывы;**
**І  радзімай старане**
**Тыя песні  –  нібы клізма:**
**Лёгка робіцца!  Й харызмы**
**Дабаўляецца ў мяне.**

**Тэлебачанне  кругамі**
**Ля раяля  –  туп-туп-туп.**
**А ў мяне паміж зубамі**

**Дзірка –ываліўся зуб.**

**Во як шчэ пакажуць гэта –**
**Будзе мне і смех, і грэх!..**
**Дзе ж мае вы вёсны, леты?**
**Эх, навокал толькі снег!..**

**Так. Дале́й, браткі, працую –**
**На “*Святой, адзінай*”[30] чую**
**Нейкі рык – сугучны, роўны:**
**Ой, як бык сярод кароў,**
**Там зароў прафесар Роўда –**
**Падпявае мне без слоў.**

**Усё! Авацыя, *“біс!”, “брава!”*.**
**Я прашу мне слова даць:**
***– Верце: ён, Бураўкін, – з’ява!***
***Не баіцца ён цкаваць***
***На сябе мае “прахілы” –***
***Й надалей няхай цкуе!*[31]**
***Дай жа, Божанька, йму сілы***
***І паболей тых у.е.!***

**Адстраляўся! Нармалёва!**
**Шмыг у задні той праход.**
**Ой, браточкі, штось х...ева:**
**Ў галаве – кругаварот.**

**Падтрымалі “ліцэісты”[32] –**
**Йны чакалі позвы тут;**
**Вунь Баршчэўскі[33] прэ ў артысты –**
**Ён вядомы баламут.**

**Барадулін***:  – Тут – Лявонка,*
*З ім ліцэйскіх босаў гронка!*
*Дзе вы, хлопцы, там? Ау-у!*

**Ой:  Баршчэўскі галаву**
**Толькі ўторкнуў, як сябрына**
**Па  газах  –  і  ўкруг яго!**
**Дзядзька нейкі[34]  словам грымнуў,**
**І Лявона  –  глянь каго! –**
**Пратрымалі на задах...**
**Во што робіцца!  Ой, жах!..**

**Хлопец лезе тут з гітарай  –**
**Мірны[35]  прозвішча яго:**
**Цягне бубен з нейкай тарай**
**З  чамаданчыку свайго –**
**Ўсё Бураўкіну з Рыгорам**
**Прама ў рукі  і  аддаў;**
**Й быццам шахнуўшы кагору,**
**Струны гучныя наддаў;**

**Хлопцы йму акампануюць:**
**Гена тараю трасе,**
**Грыша лысіну руйнуе –**
**Па сівой сваёй красе**
**Бубнам б’е самааддана, –**
**Ой, як зробіць зараз рану**
**Найвялікшы наш паэт –**
**Будзе ўсім тады прывет.**

**Ды, на шчасце, абышлося,**
**І далей усё палілося.**

**Стаканы тут зазвінелі –**
**Аж вядучыя самлелі:**
**Там наверсе, у кінабудцы,**
**Святкаваць ужо паселі.**

**Барадулін:** ***– Вось, там людцы,***
***Пэўна, трошкі акаселі!***
***Малайцы! А мы тут прэем –***
***І цвярозыя пакуль!***
***Усё – канец, браточкі, рэю!***
***Хай жыве сто лят наш круль!***

**Т р э ц і   п а в е р х .**

**Круль – вядома жа, Бураўкін,**
**Ён тут – цэнтр усяго.**
**За аўтографам казяўкі**
**Падляцелі да яго:**
**Ён з дзятвой – як дзеда Ленін,**
**І такі, як там, прыжмур;**
**Да сябе ўсіх на калені**
**Пасадзіў. А мы ў алюр –**
**І на трэцім ужо паверсе,**
**Дзе ( тут ёсць такая версія )**
**Для сяброў зрабілі стол.**

**Аглядаемся вакол:**
**Кабінет з пабітай мэбляй,**
**Пах сіроцтва і журбы...**
**Усё! Да фінішу падгрэблі**
**Нашы волаты - дубы!..**

**Во – Навум! Яго пытаю:**

***– А ці твой апартамент?***
***– Мой, халера... Вас вітаю!***
***Ой, збяднелі тут мы ўшчэнт!..***
***Бачыш: крэслы на аборках –***
***Нельга толкам пасядзець!***
***Ой, Мікола, – цяжка, горка!***
***І на гэта ўсе глядзець***
***Трохі ўжо і страшнавата –***
***Памірае наша хата!..***
***Ну, да ладна – сёння свята,***
***І таму – нуду далоў!***

**Ф у р ш э т .**

**Прыбаўляецца галоў:**
**Вунь раты параскрывалі –**
**Шчамялёў[36] вяшчае там;**
**Во – Вярцінскі[37] і Зуёнак[38]**
**Прыскакалі на сто грам;**

**Старыкевіч[39] як рамонак;**
**Таня Процька[40] – дама з дам:**
**Можа – дам, а мо й не дам! –**
**Беражэ далярчык кожны;**
**Вось Фядута[41] пераможна**
**Аглядае ўсё наўкол –**
**Нейкі круціцца прыкол**
**У яго на языку;**
**Пан Пузыня[42] за руку**
**Паздароўкаўся з усімі, –**

**Як сурму шчэ не прыпёр!..**

**Тут старыя з маладымі,**
**І з’яднаўся тут задор**
**З філасофіяй былога;**
**Мы – бураўкінцы! Нас – многа!..**

**Юля ўрэшце запрасіла:**
***– Ой, даволі ўжо чакаць!***
***Пад вінтом стаіць вунь сіла –***
***Ну, давайце наліваць!***
***А Бураўкін потым будзе:***
***Зараз рвуць яго там людзі –***
***Уцалеў бы хоць пінжак!..***

**Піць гарэлачку за так**
**Хто жа будзе адмаўляцца?**
**Ну й пабеглі набірацца,**
**Напівацца, наядацца –**
**Быццам заўтра ўсіх нас раць**
**З той варожае старонкі**
**Прыйдзе гнюсна забіваць.**

**Зазвінелі чаркі звонка;**
**Тамадою зноў Рыгор –**
**Непаўторны наш бабёр.**

**На чале стала нарэшце**
**Мікалаевіч узнік:**
***– За мяне давайце ўрэжце!***
***Добра пойдзе хай той глык!..***

**І ўразалі,  і  закуску**
**Ў паўхвіліны падмялі,  –**
**Гэта ўсё па-беларуску!**
**Каб мы добра так жылі!..**

**К о д а .**

**Засталіся  б, безумоўна,**
**З талакою гэтай мы –**
**Але там не спіць палкоўнік,**
**І чакаюць нас дамы...**

**Юлі “*Дзякуй!*” мы сказалі**
**І  адтуля ўміг прапалі.**

**А далей  –  не так цікава:**
**На метро, затым уніз,**
**Вось і дом той, вечар, кава;**
**Не зрабіць бы раптам “*Чы-ы-ыз!*”, –**
**Ой, заняцца зубам трэба!..**

**Ноч і мы...**
**І зорыць неба...**
**І заціх той Мінск ля нас…**

**Вось такая, брат Панас,**
**Атрымалася прыгода.**
**Эх, мае вы плот-згарода!**
**Трэба бегчы.  Ну, бывай!..”**

**Знік, пакінуўшы мне згоду,**
**Успамінаў асалоду**

**І пачуцця небакрай.**

*25 кастрычніка 2001 года,*
*чацвер.*
*15 чэрвеня 2012 года,*
*пятніца.*

**З а ў в а г і   і   т л у м а ч э н н і .**

**1 – Мікола Яцкоў – сябра і аднавясковец Панаса Прусака.**
**2 – Яцкова Яўгенія Яўсееўна – маці М.Яцкова.**
**3 – 28 жніўня 2001 года Г.М.Бураўкін адзначыў сваё 65-годдзе. 25 кастрычніка 2001 г. у мінскім Доме літаратараў адбылася вечарына, прысвечанаю гэтаму юбілею.**
**4 – Бураўкін Генадзь Мікалаевіч – паэт.**
**5 – Адрас у г. Мінску, па якому знаходзіцца Дом літаратараў.**
**6 – Лучанок Ігар Міхайлавіч – кампазітар, Народны артыст СССР.**
**7 – Паплаўская Ядзвіга Канстанцінаўна, Ціхановіч Аляксандр Рыгоравіч – спевакі, народныя артысты Беларусі.**

**8 – Гальпяровіч Навум Якаўлевіч –
паэт.**
**9 – Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч –
Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.**
**10 – Дом літаратараў перададзены ў
падпарадкаванне Упраўленню
Справамі Адміністрацыі Прэздэн-
та Рэспублікі Беларусь.**
**11 – Аўтавакзал “Цэнтральны”.**
**12 – Жыбуртовіч Віктар Валянцінавіч,
палкоўнік міліцыі – сябра М.Яц-
кова.**
**13 – Кустава Зося Іванаўна – адказная
за правядзенне вечарыны.**
**14 – Алсу - папулярная расійская эст-
радная спявачка.**
**15 – Беларуская грашовая банкнота
вартасцю 50 рублёў.**
**16 – Аўдзеева Наталля Пятроўна –
дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага Сходу РБ.**
**17 – Дэпутаты, гаспадары суседняга
кабінета.**
**18 – Яцкова Ала Міхайлаўна – жонка
М.Яцкова.**
**19 – Правaловіч Чэслаў Аляксеевіч –
камендант будынку Дома літара-
тараў.**
**20 – Бураўкіна Юлія Якаўлеўна –
жонка Г.Бураўкіна.**
**21 – Шабовіч Мікалай Віктаравіч –
паэт.**

**22 – Малец Іван Вільгельмавіч – паэт.**
**23 – Роўда Віктар Уладзіміравіч – хормайстар, Народны артыст СССР.**
**24 – Барадулін Рыгор Іванавіч – Народны паэт Беларусі.**
**25 – Захарэвіч Марыя Георгіеўна – актрыса, Народная артыстка Беларусі.**
**26 – Бутэвіч Анатоль Іванавіч – пісьменнік.**
**27 – Ціхановіч Анастасія – дачка Я.Паплаўскай і А.Ціхановіча.**
**28 – Дзягілева Галіна Аляксееўна – актрыса, кіраўнік тэатра “Зніч”.**
**29 – Песня “Конь незацугляны” на верш Г.Бураўкіна.**
**30 – Песня “Вечная, адзіная, святая” на верш Г.Бураўкіна.**
**31 – Гаворка ідзе пра бураўкінскае прысвячэнне: “*Музыку яцковую я на сябе нацкоўваю*”.**
**32 – Кіраўнікі Беларуская Ліцэя ў г.Мінску.**
**33 – Баршчэўскі Лявон Пятровіч – пісьменнік і перакладчык.**
**34 – Тут маецца на ўвазе Уладзімір Колас, дырэктар Беларускага Ліцэя.**
**35 – Мірны Алесь – бард.**
**36 – Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч – Народны мастак Беларусі.**

**37 – Вярцінскі Анатоль Ільіч – паэт.**
**38 – Зуёнак Васіль Васільевіч – паэт.**
**39 – Старыкевіч Аляксандр Антонавіч – галоўны рэдактар газеты "Беларускі час".**
**40 – Процька Таццяна Сяргееўна – старшыня Беларускага Хельсінскага Камітэта.**
**41 – Фядута Аляксандр Іосіфавіч – журналіст.**
**42 – Пузыня Уладзімір Якаўлевіч – майстар па вырабу беларускіх музычных інструментаў.**



